Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 8(44) 23 — 29 лютага 1996 года Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Навіны рэгіёна

## У Смаргоні за ката 6 тысяч давалі. Злавіце ў Маладзечне, даведаецеся, колькі тут можна падзарабіць.

*Нарэшце і маладзечанцам абрыдла глядзець на зграі бадзяжных жывёлін, асабліва сабак. Апошніх на вуліцах развялося ледзьве не болей за прахожых.*

І вось вытворчае аб'яднанне "Камунальнік" уводзіць у штатны расклад двух спецыяльных рабочых, распрацоўвае парадак іх работы. Кантраляваць гэта дзейства заклікаdb раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі.

*Аддзел інфармацыі.*

## Абмяняем рублі на квадратныя метры?

*МІНСК. Радыё, тэлебачанне, цэнтральныя газеты дружна паведамілі аб правядзенні грашова-рэчавай латарэі "Тваё жыллё".*

Праводзяць яе Мінскі гарвыканком сумесна з будаўніча-фінансавай кампаніяй "Цэнтрабуд". Гарантам выступае гардырэкцыя Белбізнесбанка Мінска. На 1996 год запланавана 5 тураў латарэі. У першым розыгрышы, які пройдзе 29 красавіка, разыгрываюцца кватэры ў сталіцы, аўтамабілі, тавары народнага спажывання вядучых зарубежных фірмаў. Уладальнікамі прызоў стануць усе ўдзельнікі шоў-розыгрышу, а адзін з іх выйграе суперпрыз – мільярд рублёў.

Другі тыдзень не змаўкаюць тэлефоны ў офісе "Цэнтрабуда". Як у Смольным, жартуюць тут. Сапраўды, жадаючых набыць білеты імгненнай латарэі (кожны каштуе 35 тысяч) багата. А прадаюць іх ужо практычна па ўсёй рэспубліцы.

Дарэчы, па колькасці і каштоўнасці прызоў гэтая латарэя не мае сабе роўных у краінах СНД.

*Аддзел інфармацыі.*

## Абследуе доктар Лангнер

*ВІЛЕЙКА. Трое маленькіх вілейчан, хворых на анкалагічныя захворванні, летам адправяцца разам са сваімі матулямі на лячэнне ў Германію.*

Цэлы месяц яны правядуць у нямецкіх сем'ях, атрымаюць неабходнае лячэнне і пройдуць дыягнастычнае абследаванне ў клініцы доктара Лангнера ў горадзе Уна. Фінансуе прабыванне беларускай групы, у складзе якой хворыя дзеці і іх матулі з розных раёнаў Беларусі, грамадскасць горада, а арганізуе паездку дабрачынная грамадская арганізацыя "Дзеці ў бядзе".

*Мікалай ДЗМІТРЫЕЎ.*

## Мяняем месца дыслакацыі

*Яшчэ ў студзені Валожынскі ўчастак энерганагляду распачаў работы па адключэнні электрычнасці ў сваіх зацятых даўжнікоў. У "чорным спісе" энергетыкаў амаль усе гаспадаркі раёна.*

Адны, як калгасы "1 Мая", імя К. Маркса, "Лоск", завінаваціліся больш за 300 мільёнаў рублёў. Іншыя набліжаюцца хто да соценнай, хто да двухсоценнай мяжы. Прычым, кожны новы дзень павялічвае гэтыя даўгі на новыя кілаватгадзіны.

Хваля адключэнняў, што коціцца па Валожыншчыне, носіць даволі бязлітасны характар: паралельна з калгаснымі канторамі адключаюцца майстэрні, пілараму, цэхі. Палёгка зроблена толькі для жыццёваважных аб'ектаў– кацельняў, вадакачак і ферм.

Ў сваёй большасці разлічыцца з энергетыкамі гаспадаркі не могуць: не дазваляе жабрацкі бюджэт. Але экстрэмальныя ўмовы падштурхоўваюць на пошукі нетрадыцыйных рашэнняў праблемы.

У некаторых гаспадарках калгаснае чыноўніцтва пачало перасяляцца з неасвятляемых адміністрацыйных будынкаў то ў дзіцячыя садкі, то ў памяшканні службы быту. Калі электрычнасць адключаюць у адным месцы дыслакацыі, яны перабіраюцца на іншае.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*

## Шыкавалі нядоўга

*Дырэктар Валожынскага ПТВ-208 В. Ракавец вымушаны адвучыць сваіх выхаванцаў ад гурманства. А работнікі грамхарчу, наадварот, стараюцца прыахвоціць "пэтэвушнікаў" да далікатных, дарагіх страў.*

Бо абеды, якія прапануюцца юным кадрам масавых прафесій па-свайму кошту даражэюць, а часам пераганяюць і рэстаранныя. Паслухаўшы на сесіі райсавета выступленне дырэктара вучылішча, напэўна, многія дэпутаты пазайздросцілі навучэнцам ПТВ– харчуюцца як магнаты. У меню "пэтэвушнікаў" скурпулёзна ўчыталіся кантралёры-рэвізоры. Высветлілася, што ў сталоўцы грамхарчу, якая абслугоўвае ПТВ, любілі "падпярчыць": завышалі цэны на прадукты, дапускалі факты няўкладання сыравіны. У выніку сума неабгрунтавана атрыманай выручкі склала 6 мільёнаў 520 тысяч рублёў. Заварылі, словам, кашу! Расхлёбаць бы!

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

## Кепская звычка

*Ёсць такая кепская звычка: пачаць справу і не давесці да канца. Яе каторы год можна назіраць і ў Астраўцы. Гаворка ідзе пра новабудоўлі, якія, здавалася б, вельмі многім патрэбны, але цяпер сталі трывалымі даўгабудамі. Гэта будаўніцтва малаказавода, адміністрацыйнага будынка міліцыі, новага ААБ "Беларусбанк" і іншыя аб'екты, якія вядзе Астравецкая МПМК-158. Дык у чым жа справа? Няўжо будаўнікам не па сілах завяршыць пачатае?*

Аказваецца, справа не ў іх, а ў фінансаванні аб'ектаў заказчыкамі, а больш дакладна, адсутнасць грошай. Так, калі ўзяць сітуацыю з адміністрацыйным будынкам міліцыі, то будоўля была пачата яшчэ ў 1993 годзе, ды на пабудаваных трох паверхах спынілася. Праўда, у бягучым годзе Міністэрства ўнутраных спраў плануе выдзеліць на гэтыя мэты 1 мільярд рублёў. Вось толькі іх хопіць, каб зрабіць дах.

І калі на гэтай будоўлі кіраўніцтва МПМК-158 з'яўляюцца хоць слабыя, але надзеі, то заказчык ААБ "Беларусбанк" завінаваціўся будаўнікам ужо 200 мільёнаў рублёў. На гэтым аб'екце цяпер спынены работы.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Удакладненне

У мінулым нумары "РГ" у матэрыяле "Пра ПКБ, прыватызацыю і футбольных балельшчыкаў" няправільна ўказана прозвішча першага сакратара маладзечанскага гаркома ПКБ. Трэба чытаць: Павел Пятровіч Бажко.

## Дом абрынуўся. Землятрусу не было.

*У Ракаве надзвычайнае здарэнне– разваліўся, нібы картачны, не стары яшчэ жылы дом.*

"Міну" запаволенага дзеяння падклалі будаўнікі , якія пры ўзвядзенні па дагавору з тады яшчэ саўгасам "Ракаўскі" 10-ці аднакватэрных дамоў парушылі ўсе магчымыя нормы і правілы будаўніцтва. Дом №15 па вуліцы Сонечнай– гэта другі твор будаўнікоў Валожынскага МПМК-188, у якім спрацаваў абуджаны моцнымі снегападамі выбуховы механізм браку.

Цяпер, калі дом без даху і вонкавых сцен дэманструе дасягненні будаўніцтва, спецыялісты здзіўляюцца, як ён мог прастаяць амаль 7 гадоў. Высветлілася, што замест жалезабетонных перакрыццяў пакладзена некалькі драўляных бэлек, кроквы амаль не замацоўваліся.

Падобных парушэнняў– цэлы букет. Спецыяльная камісія ацаніла вынікі здарэння. Вось толькі грошай на дапамогу ў раёне няма, як няма іх у гаспадарцы, якой належыць дом. Шчырыя прызнанні ў безграшовасці і просьбы пачакаць не могуць суцешыць дзве гаротныя сям'і, што жывуць у холадзе і пастаяннай небяспецы. На жаль, ніхто не адгукнуўся на просьбы дапамагчы ў часовым перасяленнні пацярпелых.

Калі матэрыял рыхтаваўся да друку, стала вядома, што калгасная будаўнічая брыгада прыступіла да рамонту, а кіраўніцтва МПМК-188 паабяцала выдзеліць неабходныя будматэрыялы. Але прыкметы магчымых разбурэнняў сёння назіраюцца амаль ва ўсіх братоў-блізнюкоў гэтага дома, пабудаваных ў тым жа годзе тымі ж майстрамі. Цікавая дэталь: у рэштках сцяны згаданага дома кожны жадаючы можа ўбачыць замураваную пустую бутэльку з-пад гарэлкі.

Лічу, што гэта своеасаблівы знак якасці, пастаўлены будаўнікамі МПМК-188 на сваю фірменную прадукцыю. І гора тым, хто карыстаецца ёй.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*

## Крымінал

## Не столькі тых грошай, колькі непрыемнасцяў

*КРЫВІЧЫ. Яшчэ мінулым летам Тамара Мехавіч працавала таваразнаўцам мясцовага спажыўтаварыства. З тых пор гэтую ўстанову паспелі рэарганізаваць у рознічнае гандлёвае аб'яднанне, а Тамара Міхайлаўна стала выконваць абавязкі яго старшыні. І вось нядаўна ўсплыла адна вельмі непрыемная для Т. Мехавіч акалічнасць з яе ранейшай "камерцыйнай дзейнасці".*

Так, у ліпені мінулага года Тамара Міхайлаўна атрымала са склада СП "Атабел" Мінска партыю бананаў, памідораў і яблыкаў. Прывезла ў Крывічы, размеркавала па ўсіх гандлёвых пунктах. Частка прадукцыі з афармленай накладной трапіла ў магазін вёскі Парубкі. А праз дзень яго загадчыцы Ірыне Садоўскай пазваніла Т. Мехавіч і сказала прыблізна наступнае:

–Старую накладную на садавіну і агародніну знішчы. Я прадыктую табе, як аформіць новую, трэба зменшыць вагу. Калі ж тавар рэалізуеш, прыеду і забяру розніцу.

–Добра,– згадзілася Ірына Аляксандраўна. Праз некалькі дзён яна патэлефанавала Тамары Мехавіч:

–Можаце прыязджаць, тавар рэалізаваны...

–У той раз,– паведаміў старшы оперупаўнаважаны аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю А. А. Савіцкі,– Тамара Мехавіч узяла ў Садоўскай 200 тысяч рублёў і выкарыстала на ўласныя патрэбы. Нам лягчэй было разблытаць справу, бо Садоўская не знішчыла першы варыянт афармленай накладной, а Мехавіч склала фіктыўны акт а страты садавіны і гародніны ў ходзе яе перавозак, рэалізацыі.

Па гэтаму факту ўзбуджана крымінальная справа, следства высвятляе ўсе акалічнасці аперацыі "Банан і К". А колькі і чаго зарабіла на ёй былы таваразнаўца, вызначыць суд.

*Наш кар.*

## Справу вядзе старшы следчы Ларыса Кацілоўская

*МАЛАДЗЕЧНА. Іх чацвёра: два дарослыя мужчыны, два няпоўнагадовыя хлапчукі. Сваякі паміж сабою. Доўгі час учынялі злачынствы: кралі машыны, дакументы, рэчы. Іх спецыфіка– гаражныя кааператывы, у асноўным маладзечанскія, вілейскія.*

Следства цягнулася больш года. 103 факты разгледжаны. 38 пацярпелых грамадзян. У 1,5 мільярды рублёў ацэньваюцца страты ад злачынстваў гэтай крымінальнай групы.

Сёння яны пад арыштам. Пакаранне вызначыць суд. Абвінавачванне кваліфікавана як "крадзяжы ў асабліва буйных памерах", што прадугледжвае ад 10 да 15 гадоў пазбаўлення волі.

А вось новая справа, следства якой распачала Л. Кацілоўская.

Пад вечар 24 студзеня ў кватэры аднаго з маладзечанскіх камерсантаў прагучаў званок. Дзверы адчыніла дачка-падлетак. Пяцёра, напэўна, "працавалі" пад гангстэраў– былі ў масках. Па галасах можна было распазнаць– яшчэ маладыя.

Яны патрабавалі ад гаспадара грошы. Той, вядома, адмовіў, палічыў за жарт. Але "гангстэры" пачалі пагражаць пісталетам, як сведчыць пацярпелы. Збілі яго моцна. Прымусілі аддаць 220 долараў. І ўцяклі.

З цялеснымі пашкоджаннямі гаспадар трапіў у бальніцу. Злачынцы знаходзяцца ў пошуку.

Працоўныя будні следчага працягваюцца...

*Святлана САРОКА.*

## Паспыталі Валожынскай макароны

У Барысаўскай макароннай фабрыкі ў Валожынскім раёне з'явіўся канкурэнт у асобе Валожынскага грамхарчу. Вермішэль, лапша, "спіралькі", "ражкі" пачалі выраблять ў мінулым месяцы ў цэху прадпрыемства грамадскага харчавання. Асартымент макароны заўздрасны– наладжана вытворчасць сямі відаў прадукцыі. Пакупнікі паспелі ўжо ацаніць добрую якасць вырабаў. Макарона хутка разварваецца, але пры гэтым не страчвае сваёй "формы". Работнікі цэха пераканаы, што ў макароннай разнастайнасці іх новая прадукцыя зойме ўпэўненыя пазіцыі.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

## Роздум

## Што замест піянерскіх кастроў?

*Маё пакаленне праходзіла паэтапна праз усе школьныя грамадскія арганізацыі. Цэлымі класамі мы ўрачыста ўступалі ў акцябраты, піянеры, станавіліся камсамольцамі. Змагаліся за права быць у іх радах першымі, правафланговымі. Нам, як паветра, патрэбны былі піянерскія зборы і камсамольскія сходы, гульні "Зарніца" і "Арляня", цімураўскія атрады і сустрэчы з ветэранамі вайны, іншае.*

Многае змянілася ў апошні час. Жыццё школы прызналі занадта палітызаваным і адразу ўсё перакрэслілі, як непатрэбнае. На маю думку, значна горш, што школы доўгі час заставаліся наогул без аніякіх аб'яднанняў. Толькі пaступова вакуум стаў запаўняцца.

Сёння ў школах Валожыншчыны прапісаліся грамадскія арганізацыі самага рознага накірунку. Ёсць "Нашчадкі" і "Рада сяброў", "Сябрына" і "Спадчына", "Сонейка", "Скарынічы" і скаўты. У пяці школах аднавіліся піянерскія дружыны.

У трох гарадскіх школах і прафтэхвучылішчы №208 дзейнічаюць пярвічныя арганізацыі Саюза Моладзі Беларусі. Толькі чамусьці гэты Саюз не выходзіць за межы Валожына.

*Наталля СЯМЁНАВА.*

***Сёння рэдакцыя "РГ" пераязджае на адрас: Маладзечна, вул. Б. Хмяльніцкага, 10. Мы будзем месціцца на другім паверсе інтэрната палітэхнікума, што насупраць рынку.***

*Рэдакцыя*

## Вы не забыліся падпісацца на «Рэгіянальную газету»?

Кошт падпіскі на другі квартал— усяго толькі 12 тысяч рублёў. За тузін «рваных» вы будзеце штотыдня мець дома навіны нашага рэгіёна, праграму тэлебачання, аб'явы. Вы зможаце сустрэцца з цікавымі людзьмі, атрымаць даведкі пра кошт тавараў у крамах нашых гарадоў, выразаць сабе ў блакнот расклад руху электрычак і іншага транспарту. Спяшайцеся. Падпіска на квартал завяршаецца 10 сакавіка.

Пра калегу

# І ў прыгажосць нам адчыніла дзверы...

***ВАЛОЖЫН. Яшчэ ў 1995 годзе ў раённым ДК распачалі цыкл сустрэч з вядомымі людзьмі краю пад назвай "Зямлі маёй і землякам". Першымі былі самадзейныя паэты, мастакі, народныя ўмельцы, затым - усё новыя і новыя імёны.***

Адно з іх– намеснік рэдактара газеты "Працоўная слава" Ірына Пашкевіч, пастаянны аўтар "Рэгіянальнай газеты". Мая калега рызыкнула вывесці на суд гледачоў свае работы ў жанры фларыстыкі. Упершыню гэты від мастацтва адкрылі для сябе сотні валожынцаў, гасцей горада, якія пабывалі на выставе з паэтычнай назвай "І ў прыгажосць мне адчыніла дзверы".

Кніга водгукаў поўніцца такімі запісамі: "...тое, што мы ўбачылі, напаўняе нашу душу хараством і любоўю да роднага краю, да прыгажосці. Праз вашы работы, Ірына Францаўна, ідзе да нас усё гэта", "...захапляе разнастайнасць фарбаў і зместу. У сваіх кампазіцыях фларыстыка сабрала ўсе колеры лугоў, палёў , лясоў нашага любімага краю", "...у жаноцкасці вашых карцін Вы праявіліся як дзіўнай прыгажосці жанчына", "Выстава ўразіла адкрыццём новай Ірына Францаўны. Аказваецца, яна не толькі выдатны журналіст...", "Убачыць у зімовую сцюжу працяг лета– гэта цудоўна!"

Ад першых работ да апошніх– велізарны крок наперад. А ўсяго іх– каля 70.

Сапраўдная жар-птушка атрымалася з пялёсткаў бяссмертніка, казачны Віні-Пух– з макаў. Самы выдатны літаратар не здолеў бы перадаць словамі прыгажосць трапяткой свечкі, якая бы плача, хараство снегападу, таямнічасць раніцы ў тумане. Асаблівая любоў Ірыны– матылькі розных колераў, памераў невераgodных відаў. Ім знаходзіцца месца і ў кветкавых кампазіцыях, і ў пейзажных творах.

Работа над карцінамі дае спакой душы, адпачынак пасля напружанага дня ў рэдакцыі. Творамі самавучкі зацікавіліся спецыялісты Івянецкага музея народнай творчасці, дзе неўзабаве адкрыецца невялікая экспазіцыя.

***Наталля ШТЭЙНЕР.***

# Мы хочам мець дзяцей,–

***звяртаюцца да Маі Паўлаўны Мароз, урача-гінеколага Маладзечанскай жаночай кансультацыі, з Украіны, Прыбалтыкі, іншых месцаў.***

–Мне тэрмінова патрэбны донары спермы,– у сваю чаргу звяртаецца Мая Паўлаўна да мужчын 20-40 гадоў без шкодных звычак і хранічных захворванняў.

Сімпатычны, абаяльны урач-гінеколаг вядзе спецпрыём па невыношванню і бясплоднасці. Акрамя гэтага эфектыўна прымяняе метад штучнай інсемінацыі. За пяць апошніх гадоў да яе звярнуліся 360 чалавек. Не ўсім можна было дапамагчы, але з тых жанчын, якія выкарысталі штучную інсемінацыю, 120 зацяжарылі.

–Гэты метад,– гаворыць Мая Паўлаўна,– прымяняем у выключных выпадках, калі ніякае лячэнне не можа дапамагчы сям'і мець дзіця. Як правіла, гэта адбываецца з-за бясплоднасці мужа. Але былі выпадкі, калі ў жанчыны наглядалася рэзус-канфліктная бяздзетнасць.

–Колькасць донараў непасрэдна ўплывае на стан вашых спраў, ці перавага ў якасці работы з імі?

–Калі б была неабходная колькасць донараў, чарга пацыентак не расцягвалася б на месяцы. Што тычыцца работы з донарам, выкарыстоўваць яго мы можам да пяці разоў у месяц. Але наша супрацоўніцтва не можа працягвацца больш двух гадоў.

–Донар ідзе да вас за "дзякуй"?

–Ён атрымлівае немалыя грошы, і таму мы хочам выбраць тых, хто нас цікавіць– людзей надзейных, высокамаральных, пажадана добрых сем'янінаў. Мы захоўваем поўную ананімнасць донараў. Сям'я дае падпіску, што ніколі не будзе цікавіцца яго асобай. Па-першае, мужчына, можна сказаць, верне да жыцця людзей, а па-другое, атрымае заробак. Звяртайцеся– радзільны дом, жаночая кансультацыя, кабінет №5.

***Васіль САВІЦКІ.***

# На црамок грошы не пашкадавалі

***–Што за цуд-церамок?– пытаюся, трапіўшы ў трохпавярховы будынак, што стаіць амаль у цэнтры Ашмян. Высокая столь, размаляваныя сцены, чысціня і прыгажосць.***

–Гэта гарадская пачатковая школа,– адказвае Антаніна Мікалаеўна Савёнак, яе дырэктар,– падобна на церамок, па вашых словах, таму, што мясцовая ўлада падтрымлівае лозунг "Усё лепшае дзецям" і не шкадуе нам грошай. Кожны клас, акрамя кабінета для заняткаў, мае ўтульны пакой для адпачынку. Сёння гэта вялікая раскоша. Маем шыкоўную спартыўную залу, бібліятэку. Шмат уклаў у школу наш рабочы Віктар Баркоўскі. Майстар-залатыя рукі амаль з паветра зробіць рэч патрэбную і прыгожую.

І не грукаючы ў дзверы, як у тым "Церамку", не просячы дазволу, да нас штодзённа прыходзяць 378 маленькіх навучэнцаў і 28 настаўнікаў. Апошнія, акрамя праграмнага навучання, з задавальненнем сваім "мышанятам" чытаюць казкі.

***Васіль САВІЦКІ.***

# Абагрэў... халоднай вадой

***МЯДЗЕЛ. Кожны з нас добра адчуў, што зіма сёлета выдалася не з жартоўных. І найбольш даймае холад тых, у каго слабавата з ацяпленнем у дамах, вытворчых памяшканнях. Як гэта было напачатку зімы ў Латвянскай сярэдняй школе. Тэмпература ў класах не падымалася вышэй за 10 градусаў цяпла. Зразумелая справа, у такіх умовах вучні больш думаюць аб тым, як бы гэта сагрэцца, а не аб вучобе.***

У школе цярпелі не першы год. Падключана яна да кацельні мясцовага калгаса. А там паліва - кот наплакаў, ды і цеплатраса месцамі забілася. Перспектыў і надзей на нейкае паляпшэнне аніякіх. І тут, як гэта здараецца ў добрых казках, дырэкцыі ўстановы прапанавала свае паслугі мінскае таварыства з абмежаванай адказнасцю "ЮрЛе і К": мы вашай бядзе дапаможам - паставім у Лотву ўніверсальную сістэму на базе цеплагенератара; вуглю альбо мазуту не трэба, дыму не будзе, затое ў школе стане цёпла і ўтульна.

Да прадстаўнікоў фірмы пасыпаліся пытанні: што за цеплагенератар, па якому прынцыпу працуе, наколькі ён надзейны? Аказваецца, усё простае, як сякера, і таму далгавечнае. Прынцып дзеяння сістэмы заснаваны на пераўтварэнні электраэнергіі, якая спажываецца помпавым агрэгатам, у цеплавую у выніках складаных гідрадынамічных працэсаў.

–Ведаеце,– расказвае намеснік старшыні Мядзельскага райвыканкома І. Шаранговіч,– даверу асабліва розным таварыствам і фірмам у нас было мала. Сумняваліся, аднак вырашылі рызыкнуць. І не памыліліся! Не на словах, а на практыцы гэта ацяпляльная сістэма аказалася вельмі эфектыўнай. Мантаж цеплагенератара ў школе выканала невялікая брыгада з Мядзельскай райаграпрамтэхнікі пад кіраўніцтвам К. Яцыны.

–Зрабілі яны ўсё,– сказаў пры сустрэчы дырэктар школы Д. Роўда,– хутка і якасна, за што ім вельмі ўдзячны. Кошт электраэнергіі, якую зрасходавалі за апошні месяц для работы цеплагенератара меншы, чым затрацілі б на паліва для кацельні. Не патрэбна качагараў, абсталяванне працуе ў аўтаматычным рэжыме. Самае ж для нас галоўнае– у школе цёпла. Хто не верыць, можа прыехаць і пераканацца. У гэта верыцца з цяжасцю, аднак адносіны атрыманай цеплавой энергіі да затрачанай электрычнай перавышаюць 125 працэнтаў.

З усіх выкарыстоўваемых у раёне ацяпляльных сістэм - гэтая самая надзейная, самая танная і экалагічна чыстая, што ва ўмовах курортнай Мядзельшчыны вельмі важна.

***Алесь ДЗЯГІЛЬСКІ.***

# Маладзечанскія парадоксы

***У свой час кіраўніцтва Маладзечна вырашыла, што тут абавязкова павінны быць аж тры велічныя выявы Леніна. І хаця гэты чалавек ніколі тут не быў, адну манументальную скульптуру правадыра Кастрычніцкай рэвалюцыі ўсталявалі перад былым будынкам абкома партыі, дзве другія– у гарадскім парку і ля гасцініцы. Рабілася ўсё пасля таго, як за адну ноч былі ліквідаваныя прыкладна такія ж скульптурныя постаці Сталіна, і па ўсёй краіне ўзнялася хваля пакланенняў іншаму чалавеку.***

Але пасля таго, як палітычная сітуацыя ў грамадстве змянілася, і не на карысць пашырэння ідэй ленінізма, давялося дзве апошнія скульптуры перанесці ў іншыя, не такія людныя месцы. Адзін Ленін апынуўся на панадворку СШ №9, другі– СШ №10, трэці застаўся на ранейшым месцы– Цэнтральнай плошчы, якая раней насіла яго імя. З цягам часу скульптуры, асабліва тыя, што знаходзяцца ля школьных будынкаў і змайстраваны з нетрывалага будаўнічага матэрыялу тыражаваным спосабам, пачалі разбурацца і набываць не зусім прыстойны выгляд. Былі спробы іх падфарбаваць. Але ад гэтага яны станавіліся яшчэ горшыя.

Паколькі ніякай мастацкай вартасці яны не ўяўляюць, гучалі слушныя прапановы аб іх дэмантаванні: аднаго Леніна на Цэнтральнай плошчы для некалькіх дзесяткаў маладзечанскіх камуністаў будзе дастаткова, каб спраўляць рытуал яго ўшанавання. Апошнім часам стала вядома, што ўнесена прапанова абнавіць і зрабіць рэстаўрацыю. Нават тых, што знаходзяцца ля школ, нягледзячы на тое, што навучальныя ўстановы павінны быць дэпалітызаваныя.

Невядома і за чый кошт будзе ўсё зроблена: ці то з гарадскога бюджэту, ці то з кішэні верных ленінцаў. Відаць, і ў трохтысячнае стагоддзе мы збіраемся ўвайсці ўсё з тымі ж трыма Ленінымі ў Маладзечне.

x x x

У снежні мінулага года "Беларуская ніва" змясціла артыкул старшыні Маладзечанскай раённай ветэранскай арганізацыі В. Ляшковіча "Пад флагам "Адраджэння"". У ім аўтар цынічна робіць выснову, што ўсе бясчынствы ў нашым грамадстве, у тым ліку і пашкоджанне помнікаў на гарадскіх могілках і ў іншых месцах,– справа беларускіх нацыяналістаў з БНФ, што ўсё пачалося з таго часу, калі ў Маладзечне стала дзейнічаць камісія па перайменаванню вуліц і плошчаў, а рускамоўныя шыльды пачалі мяняць на беларускамоўныя.

У нашым горадзе сапраўды пэўны час даволі плённа працавала тапанімічная камісія пры гарвыканкоме. Яе ўзначальваў вядомы ў горадзе і рэспубліцы вучоны- гісторык і краязнаўца Генадзь Аляксандравіч Каханоўскі (на жаль, 15 студзеня 1994 года заўчасна памерлы). Пад яго кіраўніцтвам і навуковым абгрунтаваннем шэрагу старажытных вуліц Маладзечна вярнулі іх былыя назвы, іншыя перайменавалі адпаведна з гісторыяй нашага краю і мясцовай тапанімікай.

Агульнавядома, што так званы вандалізм, аб якім нагадвае аўтар таго артыкула, распачаўся намнога раней, чым стала ў Маладзечне працаваць камісія па перайменаванні вуліц. І не пад флагам "Адраджэння", з дапамогай прыхільнікаў БНФ, як заяўляе спадар Ляшковіч, а пад чырвоным бальшавіцкім флагам, неўзабаве пасля кастрычніка 1917 г. пачалося небывалае ў гісторыі чалавецтва разбурэнне матэрыяльнай і духоўнай культуры нашага народа і іншых народаў былога СССР. "Што пасееш, тое і пажнеш"– варта памятаць усім нам, асабліва таму, хто зноў пабальшавіцку вядзе фальсіфікацыю і дэзарыентацыю грамадзян.

Вось такія парадоксы даводзіцца назіраць, калі ў прэсе свабодна гуляюць правакацыйныя матэрыялы, а грошы збіраюцца марнаваць на рэстаўрацыю сімвалаў таталітарызму.

***Кастусь ХАРАШЭВІЧ, мастак.***

# Тайна забойства ля Страчанкі

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 35, 36 за 95 г., №№ 2, 5 за 96 г.)*

З арыштам у снежні 49-га міліцыянера Андрэя Белікава следства па забойству дырэктара цагельні Дыганава зрушылася. З'явіліся новыя сведкі. Сёстры Нябескія, якія бачылі здарэнне, баяліся адкрыта назваць імя злачынцы: "Гэта быў не бухгалтар Блахін, а чалавек значна лепшы..." Які сэнс укладалі ў слова "лепшы"– не тлумачылі. Падстава хваляваццa ў іх сапраўды была. Асабліва, калі "лепшым" яны лічылі Белікава.

Андрэй на допытах у следчага Свірскага раёна Дэркса трымаўся ўпэўнена і нават нахабна. Усе сведчанні супраць сябе адмаўляў.

–Чаму Блахін вас называе забойцам?– пытаецца Дэркс.

–Ён пакрывае свайго траюраднага брата Ганчарова. Я не маю ніякага дачынення да забойства. У гэты час спаў на паддашку сваёй хаты. Таму мяне ніхто не бачыў.

–Спаў усю другую палову дня?

–Не. У 8 гадзін вечара (гэта быў момант забойства) да мяне прыйшоў дапрызыўнік Міхаіл Фёдараў. З ім і яго братам Канстанцінам я ўвесь вечар гуляў у валейбол на пляцоўцы ваенкамата.

Але Канстанцін сведчыў інакш.

–Міхаіл цяпер у арміі служыць. У дзень забойства Дыганава ніякай гульні не было. Толькі аднойчы, памятаю, я гуляў у валейбол з Белікавым. Восенню 48-га. Бачыў Андрэя ў дзень забойства пасля заходу сонца. Ён ішоў паўз нашу хату і нёс у скрутку шынель. Прысеў да нас з братам на лаўцы ў двары. На той момант яшчэ малы Лявон прыбег і сказаў, што некага забілі.

Цікавы факт. З Канстанціна Фёдарава следчы пракуратуры ўзяў распіску. "...Абавязваюся захоўваць у строгай тайне ўсё, што паказаў... У выніку выкрыцця дзяржаўнай следчай тайны нясу крымінальную адказнасць". На працягу ўсяго следства, якое ішло потым шмат гадоў, толькі ў аднаго яго ўзялі такую распіску.

Маці Андрэя Белікава з моманту арышта сына не знаходзіла сабе месца. Жадаючы дапамагчы, яна запякла ў блін запіску: "Сынок, кажы, што ўвесь час быў дома." Міліцыянер Мялешка спрабаваў перадаць яе арыштанту, але няўдала. Потым Фядосся паслала тэлеграму Міхаілу Фёдараву. Чым вельмі здзівіла салдата. "Такой увагі да мяне,– пісаў Міхаіл бацькам з арміі,– Белікавы ніколі не выяўлялі."

Безумоўна, нечая "магутная рука" на працягу ўсёй следчай справы ахоўвала Андрэя Белікава. За месяц да судовага працэсу яго чамусьці пераводзяць у адну камеру да Блахіна ў Вілейцы. 25 красавіка 49-га ў зале суда бухгалтар адмаўляецца ад сваіх сведчанняў супраць Андрэя. На судзе праходзіць і версія Белікава, што ў момант забойства ён гуляў у валейбол з Фёдаравым. Канстанцін сказаў:

–Гэта мой брат Міхаіл гуляў з Андрэем. Следчы памылкова запісаў інакш.

Праверыць гэты факт адразу было складана.

Пасля звальнення з міліцыі за п'янкі і да арышта Белікаў працаваў загадчыкам гаспадаркі ў ваенкамаце. Меў вольны доступ да зброі, як і заўжды раней. Таму пры вобыску ў яго хаце знайшлі пісталет і патроны. Экспертызу кулі, якой быў забіты Дыганаў, чамусьці ніхто не правадзіў. Сцвярджаць, што менавіта са зброі Белікава быў зроблены смяротны стрэл,– немагчыма.

Па хадайніцтву пракурора Грыбанава суд вярнуў справу на даследаванне за недахопам вызначаных абставін. Фядосся Белікава і Канстанцін Фёдараў былі ўзяты пад варту за ілжывыя сведчанні. Але старую Белікаву потым вызвалілі як цяжкахворую.

Ізноў справу вёў следчы Дэрс. З Савецкай Арміі ад ваеннага следчага прыйшоў адказ: "Праведзены допыт паказаў, што салдат Міхаіл Фёдараў не гуляў вечарам 11. 06. 48-га г. у валейбол з А. Белікавым."

У чэрвені 49-га зноў быў суд. Пракурор Пялецкі падтрымаў абвінавачванне следчага Дэркса і пракурора Волаха. Палічыў вінаватасць Блахіна і Белікава даказанай і прапанаваў абодвух асудзіць на 25 гадоў пазбаўлення волі. Аднак старшыня суда Трунін апраўдаў Белікава. Блахіна асудзілі на 25 гадоў выпраўленча-працоўных лагераў і пазбавілі медаля "За Перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 41-45 г. г."

У ходзе чарговай праверкі, што адбывалася ў лістападзе 50-га г., намеснік пракурора БССР Кустоў апратэстоўвае гэта рашэнне ў адносінах да Белікава. Судовая калегія Вярхоўнага суда адмяняе апраўдальны прысуд.

Але Андрэй Белікаў, да гэтага часу непадлеглы прызыву ў армію, менавіта ў 50-м годзе прызываецца і ў чэрвені накіроўваецца ў Галоўпаўночмаршлях у аэрадромна-будаўнічыя войскі. Таму ў студзені 51-га прынята рашэнне аб нямэтазгоднасці прыцягнення да крымінальнай адказнасці Белікава, улічваючы яго службу ў арміі.

У гэты час асуджаны Блахін знаходзіцца на выпраўленчых работах у Каргапальлаге. Ён рупліва піша шматлікія скаргі. А ў студзені 52-га падгаворвае прапашчага злачынцу Мароку і яго сябра Машчанку, з якімі разам адбывае пакаранне ў Каргапальлагу, узяць віну за забойства Дыганава на сябе. За 10 тысяч рублёў, якія паабяцаў Блахін, Марока і Машчанка сведчаць, што гэта менавіта яны і іх сябры-бандыты забілі ў 48-м ля Страчанкі Дыганава.

Значна пазней высветліцца, што на самой справе яны ніколі ў сваім жыцці не былі ў Свірскім раёне. А на момант забойства Марока знаходзіўся ў зняволенні, а Машчанка на Украіне.

Першы аддзел Упраўлення Каргапальлага пераглядае справу па абвінавачванню Блахіна. Вярхоўны Суд БССР вызваляе яго ў красавіку 52-га, як дастаткова панесшага пакаранне. Марока і Машчанка прызнаны забойцамі.

Пленум Вярхоўнага Суда БССР у кастрычніку 52-га заўважыў недакладнасць і зноў адаслаў справу на новае расследаванне. Яна пераглядалася, адкладвалася, "завісала" і пылілася да верасня 60-га, пакуль яе не спыніў пракурор Кізік.

На працягу дзесяцігоддзя блытаніны, бюракратызму і звычайнай (а можа і наўмыснай) нядбайнасці следчага і судовага апарату, як кажуць, было "выплюхнута дзіця". Злачынства не было пакарана. А забойства ля Страчанкі дырэктара цагельні Пятра Дыганава для ўсіх засталося загадкай. Безумоўна, акрамя тых, хто быў відавочцам і саўдзельнікам.

***Святлана САРОКА.***

